# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1547) ГОД XXXI БЕЛАСТОК, 5 СТУДЗЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.

## ТАЛЕНТ І ДАБРЫНЯ

Сваю скромненькую майстэрню ён абсталяваў у дзедавай ящчэ, спарахнелай ды сточанай шашалямі хаце. У памутнелых ад веку шыбінах разлеглы далягляд. Зусім за акном, ля стромкага берагу, то смяюцца жывым срэбрам, то стогнуць мутнай топеллю, то стынуць у аковах лёду віры, затокі ды плёсы звіўнай Нарвы. За імі, у заслужаным мроіве — вёсачкі, зубчастыя сцены бору, кашлатыя пералескі, продыхі палёў. А тут, за сценкаю, у колішняй каморы, бабульчын абдрапаны сундук і ў ім пад цяжкім векам цэлы ягоны свет — свае і чужыя, суседзі і далёкія, сяляне і падпанкі, дзятва і старэчы, апосталы і Хрыстос. Адчараваная долатам ды нажом з камлёў самотных польных груш, прыдарожных хілых вербаў, садовых сукатых яблынь, спеўных меднастволых соснаў, здабытых з мрокаў даўнасці, скамянелых з рачной топелі дубоў...

Так, вы не памыляецеся: на Каляды „Ніва“ завітала ў Канюкі да народнага разбяра Уладзіміра Наўмюка. Нашым чытачам рэкамендаваць яго не трэба — найлепшую вядомасць гэтаму самароднаму таленту прыносяць ягоныя працы, без якіх ужо гадоў дваццаць не абыходзіцца ніводная выстаўка народнага мастацтва ў Польшчы. Яны знаходзяцца ў многіх музеях нашай краіны, трапілі таксама ў музеі іншых краін. Шмат іх разышло-

(Працяг на стар. 6)



Уладзімір Наўмюк. Маці.

НА МЯЖЫ

## Аб родным

І зноў прамільгнуў круглы год. Здаецца, так нядаўна куплялі мы новыя календары на 1985 год і як след не прывыклі яшчэ на рознага тыпу дакументах ці лістах пісаць: год 1985, а ўжо трэба прывыкаць да пісання: 1986. І калі ж гэта ўсё скончыцца? — хацелася б спытаць са злосцю. Але ж вядома, што не скончыцца ніколі, бо ўсё жыццё-быццё ёсць нічым іншым, як стрымгаловым адыходам старых пакаленняў і прыходам усё новых чалавечых генерацыяў.

І ўсё ж-такі, нягледзячы на пастаянную пераменлівасць жыцця і свету, ёсць штосьці ў гэтым жыцці і вечнае. А гэтая вечнасць-пастаяннасць павінна перш за ўсё праяўляцца ў нашай любві да роднай зямлі, да роднай мовы, да родных традыцый, да роднай культуры.

Нас на Беласточчыне не пасяліў ніхто з цароў і ніхто з каралёў. Нашых продкаў пасяліў тут лёс. І сталіся мы неаддзельнай, арганічнай часткай той зямлі, якая на працягу тысячы гадоў карміла нашых продкаў. І таму, беларусе, незалежна ад таго, ці ты стары і стаіш над магілай, ці ты ў квітненні сваіх дваццаці пяці гадоў, ці ты яшчэ дзіця і толькі пачынаеш выглядаць са сваіх вясковых аселіц у шырокі свет, памятай, што ніхто і нідзе

(Працяг на стар. 2)

### З рэпарцёрскіх запісак

## ...І НАС РАЗБУДЗІЛІ

Беларуская сялянска-рабочая грамада, першая ў гісторыі беларускага народа масавая грамадска-палітычная легальная рэвалюцыйна - дэмакратычная арганізацыя, існавала няцэлых два гады, ад чэрвеня 1925 г. да сакавіка 1927 г.

24 ліпеня 1925 г. чатыры пасы ў Сейм Рэчыпаспалітай ад беларускай нацыянальнай меншасці: Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Павел Валошын і Пётр Мятла — заснавалі асобны пасольскі клуб пад назвай **Беларуская сялянска-рабочая грамада** (БСРГ, або звычайна — **Грамада**). Карыстаючыся пасольскай недатыкальнасцю, гэтыя пасы разгарнулі сярод беларускага насельніцтва тадышняй Польшчы шырокую агітацыю за падтрымку нацыянальна-вызваленчых ідэй Грамады. Іх заклікі траплялі на спрыяльную, добра ўжо падрыхтаваную глебу.

„*Ад веку мы спалі і нас разбудзілі, сказалі, што трэба рабіць...*“ — спявалася ў грамадаўскім гімне і была гэта шчырая праўда. Грамада разбудзіла імкненні беларусаў, каб „людзьмі звацца“. Максім Бурсевіч, кіраўнік Цэнтральнага сакратарыята Грамады, падае ў сваёй справаздачы, што гэтая арганізацыя 1 лютага 1927 года налічвала ўжо 117 тысяч членаў. Ніводная палітычная партыя ў тадышняй Еўропе не змагла пахваліцца такой колькасцю сваіх членаў. Гурткі з лікам не менш чым 7 асоб існавалі па ўсёй Заходняй Беларусі. Павятовыя камітэты дзейнічалі ў Беластоку, Бельску, Брэсце, Саколцы і Сувалках. Усіх іх было аж 18, з колькасцю членаў у кожным павеце ад тысячы да трох тысяч. Для прыкладу, у Трасцянцы гурток Грамады налічваў аж 122 члены, а ў Орлі — 90 членаў. Вялікія гурткі існавалі ў Белавежы, у Кляшчэлях і ў іншых вёсках.

Актыў БСРГ хутка наладзіў выдавецкую дзейнасць на беларускай мове. Газеты друкаваліся рускімі і польскімі літарамі. Іх загалоўкі вельмі часта змяняліся, бо дзяржаўная цэнзура спыняла дазвол на выдаванне гэтых газет. Найчасцей паўтараліся назвы: „*Жыццё беларуса*“, „*Беларуская ніва*“, „*Беларуская справа*“, „*Народная справа*“, „*Наша справа*“ і гэтак далей. Толькі сатырычна-ілюстраваны часопіс „Маланка“ на працягу трох гадоў свайго існавання трымаўся аднаго загалоўка.

БСРГ у Сейме Рэчыпаспалітай і сярод насельніцтва Заходняй Беларусі праводзіла шматлікія масавыя грамадска-палітычныя кампаніі. Для прыкладу, стваральнікі Грамады ўжо на другі

(Працяг на стар. 4)

Нашым верным чытачам найлепшыя калядныя пажаданні! „Ніва“

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 319

## Паўторнасць непаўторнага

474

Калі за свае няўдачы будзеш абвінавачваць выключна лёс, не хутка дойдзеш да ўдачы.

475

Калі кампраміс жэніцца з катэгарычнасцю, павінны лічыцца з тым, што іх дзіця будзе называцца абыякавасцю.

476

Бываюць такія словы, якія важаць столькі сама, што хлеб.

477

Фальш часцей паслугоўваецца слязой, чым шчырасць.

478

Дрэвы — аздобныя ніты, якія звязваюць неба з зямлёй.

479

Ссякаючы дрэва, забіваеш песню.

480

Спекулянт марыць, каб людзей было многа, а тавараў мала.

481

Добры чалавек сваё шчасце паказвае, дрэнны хавае.

482

Ёсць людзі, якія цешацца сваім шчасцем толькі тады, калі яно звязана з няшчасцем другіх.

483

Бяда, калі духоўная і матэрыяльная спекуляцыя становіцца рэлігіяй грамадства.

484

Шчаслівы баіцца перамен, нешчаслівы аб іх марыць.

485

Многія геніі, якія прыдумвалі тэарэтычныя мудрасці, рабілі практычныя глупствы.

486

Цяжэй дрэннае перарабіць на добрае, чым зрабіць добрае ад пачатку.

487

Зненавіджаным вельмі часта здаецца, што яны каханыя.

488

Калі заўтрашняга не пачнеш будаваць сёння, дык заўтра апынішся ў сённяшнім.

489

Калі б чалавек пазнаў да канца істоту жыцця, дык адзіным яго імкненнем стала б смерць.

490

Самакрытыцызм — ветразь, самазадаволенасць — якар.

491

Сапраўдная лёгкасць адпачынку адчуваецца толькі пасля цяжкой працы.

492

Многія стараюцца заўсёды мець свой профіль і анфас у такім стане, каб у любы момант можна было іх фатаграфаваць.

493

Ён гатоў быў усе свае „так" замяніць на „не", калі са зморшчанага ілба начальніка вынікала, што гэта пажадана.

**Алесь Барскі**

* * *

І зноў я ў роднай вёсцы
З сям'ёю, між знаёмых.
Штодзень бываю госцем
На радужных прыёмах.

Усюды запрашаюць
Мяне з адкрытым сэрцам,
І часам адчуваю
Сябе, як на канцэрце.

Далёкія ўспаміны
Спатканні папаўняюць:
Пра нашы каляіны
Да пекла і да раю.

Пра дзіўныя забавы,
Пра даўнія хваробы,
Пра подзвігі без славы,
Пра акіяны злобы.

І кожны раз трымаю
Экзамен з роднай мовы,
Які мяне трывожыць
Ва ўсіх маіх размовах.

На мове той у вёсцы
Гаворыцца заўсёды —
Яе не зменіць мода,
Яе не зменяць годы.

І ёй не здрадзяць людзі
У гэтым асяроддзі,
Я веру, што жыць будзе
Праз доўгія стагоддзі!

**Д. Шатыловіч**

### НА РОЗСТАНЯХ

Оддаляемся од сэбэ
штораз буольш...
буольш
аж прэч згінэм
на горызонті нэспокуойного нэба
у бэздонную пропасці

Розыйдуцце дорогі
зміняецця сэнс жыцця
но сёло і дэрэвяна хата
будут коіті буоль
будут верны до скону

Вэрнэмся по лістях
позбіраті вспоміны
пошукаті слідочкув
дэ в детстві ходілі

Всё тут нам
руоднэ і бліське
до слёз радосці.

**Жэня Мартынюк**



Мал. Міколы Давідзюка

* * *

прыжмурыўшысь колышэсься
з піснёю
музыка обвіває ногі
што пройшло — як в люстрах
— от і твоя нуоч вэсновая
віэрыш жэ станэш з собою
око в око
а до сэбэ нэ дуойдэш
выручаешся тэатром
добрым тэатром тэорыі
— а нэ маеш нэякого
зостало шчэ колотаті
до знакомых
полубіш чай і гладке слово
— і што жэ нэ так вэдэш

**З. Сачко**

### УСЁ ТУТ ПАРЫ ХОДЗЯЦЬ, ПАРЫ

Усё тут пары ходзяць, пары
Па горных сцежках і далінах.
А я аб пары толькі мару,
Усё няма маёй жанчыны.

Усё яшчэ я адзінокі,
Блукаю ўсё яшчэ, блукаю,
Так многа тут жанчын навокал,
Каторая ж мая? — пытаю.

Усё я ў пошуках нястомных
Тае, што мае быць маёю.
А час імчыць так непрытомна,
Цярушыць скроні сівізною.

А, можа, ўжо дарэмны пошук,
Мары аб спозненым каханні?
Мо адзіноты сваю ношу
Насіць я буду да скanання...

**Віктар Швед**

Закапанэ 28 II 85

## ЗДЗЕЛКА

— А гэта ты мне пра што, пане?! — непрыемна здзівіўся Балабэнак.

— Ну, майсы майсамі, а ты як сабе хочаш, — знеахвоціўся Намеснік.

Яны пілі ў „Перапёлачцы" чырвонае віно, самае таннае, якое можна было там заказаць (румынскае). На дварэ марусіў дождж, штодзённы ў гэтае мокрае лета. За шклянымі сценамі павільёна гнілавата зелянеў блізкі парк, запушчанае кустоўе нечага ўздоўж тратуарчыка заглухлай тут вуліцы (па якой лепей было не хадзіць увечары). Балабэнак з Намеснікам адчувалі сябе не зусім каб добра ў такой маладняцкай кафэйцы, будучы мужчынамі з налётам сівізны на скронях. Месца, аднак, для іхняй гутаркі выбралі яны абачліва — у рэстаране альбо ў бары мог жа іх нехта сур'ёзна падслухаць, а таксама і не пасядзіш тамака за абы-чым.

— Слухай, Намеснік, цану ты скажы яму, пане, пасля ўсяго.

— Можа быць, ён абразіцца?

— Хто?! Гэта ж мужык!

— Ну, майсы майсамі, хаця б патрыятызмам нам возьме ды заедзе...

— Не смяшы мяне, Намеснік: нашто, пане, ратаю нацыянальнасць?

— У нас, па-праўдзе, не будзе столькі грошай, Балабэнак. Тут справа такая, што майсамі не выкруцішся ад яе.

— Ад цаны да платы дарога, пане, павінна быць доўгая, Намеснік.

— Як зрабіць тое?

— Рухай мазгамі, Намеснік, варушы імі...

Яны паазіраліся, трохі як набабнікі, што зайшлі пашукаць валачашчай сабе нанач. Віхрастыя юнакі і ўгадаваныя дзеўкі лізалі марожанае, хто седзячы, а хто стоячы, модна крыўляючыся. Начэквалі, калі аціхне дажджоўе, каб хутка пайсці дамоў.

— Я яму, Намеснік, як не даў, ведаеш, дык ён і выпрасціўся! ... — пачаў сваё Балабэнак. Недзе за імі рагатліва крыкнула дзяўчына, задзынкала разбітае шкло: „Ідзі, заплаці за шклянку, хі-хі..."

— Не перастае, — сказаў Намеснік, як бы не чуючы Балабэнка і нудна ўглядзеўшыся некуды ў заімжавелае воддалле. Той рогат рабіўся нясцерпным, усё болей падобным на роспачны плач маладзіцы (заціх, урэшце, быццам зайшоўшыся ад жалю). — Балабэнак, — загаварыў, бы прачнуўшыся. — Майсы майсамі, нашто табе было заводзіцца з ім?

— Калі тое, пане, было?!

— Ой, балабэнак-балабэнак ты...

— Ну што „балабэнак"?!

— А тое, майсы майсамі, ці ты паверыў бы ў гешэфтах такому, каго бачыў на сваёй жонцы?

— Глупствы, Намеснік: прычым тут, пане, „паверыў бы — не паверыў бы"? Ён жа, той самы, унукаў ужо, пане, гадуе!

— Блага, Балабэнак, калі баба стаіць на дарозе.

— А ці я кажу, што добра? Інтэрас наш наматай ты з ім так, майсы майсамі, як бы пра мяне і не чуў нават.

— Усё роўна выявіцца...

— Позна яму тады будзе ганорамі раскідацца, майсы майсамі, грошы добрыя панюхаўшы. Ды і другога такога дурня дзе ж нам знайсці?

— Яно праўда...

— За грошы і чорт харошы, хі-хі...

Дождж сыпаў і сыпаў. І яны засядзеліся.

**Сакрат Яновіч**




## БЕЛАРУСКАЕ — МАРАЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

Яшчэ раз спрабую ўзняць голас. Прымушае мяне зрабіць гэта зноў жа некаторая павярхоўнасць тых папрокаў Барскага ў адрас суродзічаў. У гэты раз звярну ўвагу чытачоў на больш дэталёвы аспект нашага нацыянальнае „выжывем або не выжывем".

Заняпад беларускага выклікааны т а к с а м а самім жыццём у сучасных умовах, якія ў сацыяльным сэнсе адрозніваюцца ад мінулых эпохаў і тым, што амаль усе мы цяпер штодзень залежым ад дзяржавы, усе на „казённым хлебе". Відаць гэта і неспрактыкаваным вокам: калісьці мае бацькі атрымлівалі ў год адну ўсяго паперку, быў гэта квіт за падатак. А цяпер? — хоць ты канцылярыю заводзь дома!

Чалавек, каб рэалізаваць патрэбы свайго жыцця, абыходзіць перашкоды — яўныя і спадзяваныя. Таму, нават дачуўшыся толькі, што яму прыналежнасць да нацыянальнай меншасці можа стаць адной з гэткіх перашкодаў, ён задумаецца над выхадам (вынікі такіх роздумаў вось апісвае нам Барскі ў „Дзяржаўнасці і нацыянальнасці"). Якія іншыя рацыі могуць прымусіць яго застацца сабою, беларусам? Так, не болей як этычна-маральныя! Невыпадкова затым беларускія настроі ўтрымліваюцца перш за ўсё ў асяроддзях, у якіх наглядаем значнае пачуццё матэрыяльнай самастойнасці, у развітнейшых гаспадароў і рамеснікаў, сярод вышэйшай інтэлігенцыі (медыкі, юрысты, інжынеры). Адсюль бярэцца новая якасць у беларускім культурным працэсе, своеасаблівая элітарнасць культу беларускай мовы перш за ўсё. Так званы просты людзін, хоць і дэкларуе сябе беларускай нацыянальнасці, ні трохі не мае ў сваім духоўным нутры нейкага наказу абавязкова размаўляць на беларускай культурнай мове. Прычына звычайная — не бачыць ён узаемасувязі паміж: быць культурным беларусам і заможным беларусам. А нярэдка лічыць ён дэманстрацыю беларускага патрыятызму як правакацыю супроць ягоных жыццёвых здабыткаў. Як раздражніванне „ваўка неталерантнасці", які хапае за самюткае горла.

Гібеем у законах мімікрыі, г.зн. не кідацца ў вочы, прыстасавацца да акружэння, прыпадобніцца. Нехта з „простых" сказаў: капітал не разумее па-беларуску, каса выплатаў зачыняецца тады.

Высокім голасам гаворым пра ганебнасць асіміляцтва. Адкуль у нас раптам столькі выраджаў?! — прыкідваецца няведаючым Алесь Барскі. Ды з адчаем дадае: культурнасць выгубіць беларусаў, бы мікробы якія! Я, Анташэвіч, прачытаў гэты ма-

(Працяг на стар. 5)

# ...І НАС РАЗБУДЗІЛІ

(Працяг са стар. 1)

дзень пасля заснавання свайго пасольскага клуба далучыліся да сеймавых фракцый Камуністычнай партыі Польшчы і Незалежнай сялянскай партыі, каб разам падаць на разгляджанне Сейма прапанову аб канфіскацыі памешчычых, дзяржаўных і царкоўных земляў і перадачы іх без выкупу ў карыстанне сялян. Выступаючы з гэтай прапановай, пасол А. Пашчук, між іншым, гаварыў у Сейме:

„У Польскай дзяржаве нагляддаецца жудасны голад зямлі. 17.600 памешчыкаў уладаюць 9 700 000 га. У той час больш як 1/3 частка вясковага насельніцтва зусім пазбаўлена зямлі. (...) Гэтакае становішча вядзе працоўныя масы сялян да крайняй беднасці..."

Прыведзеныя лікі адносяцца да ўсёй даваеннай Польшчы. Становішча ў Заходняй Беларусі складалася яшчэ болей трагічна. А дзеячы Грамады ў сваіх газетах, лістоўках і на мітынгах прарочылі лепшую будучыню паднявольнаму беларускаму люду, калі ён згуртуецца ў адну грамаду. І люд гуртаваўся. Гуртаваўся так хутка, шчыра і ахвотна, што ўлады перапалохаліся гэтай сапраўднай лавіны беларускай нацыянальна-вызваленчай стыхіі. Старасты і паліцэйскія начальнікі атрымалі тайныя загады, каб усімі спосабамі ўтаймоўваць гэты рух.



Шыману Карнілюку было 12 гадоў, калі ў 1926 годзе ў вёсцы Старое Беразова быў наладжаны павятовы з'езд Грамады.

Пад канец 1926 года БСРГ праводзіла павятовыя з'езды сваіх членаў. Гэтакі з'езд у лістападзе 1926 года планаваны быў у Бельску. Згоджана ўжо была зала кіно, найбольшая, якая тады існавала ў Бельску. Паліцыя, аднак, так запалохала ўласніка гэтай залы, што ён адмовіўся ад грамадаўскіх грошай і не даў згоды, каб павятовы з'езд адбыўся ў яго кіно. Дэлегаты рашылі пашукаць іншага месца для свайго павятовага з'езда. Спачатку хацелі правесці яго ў Трасцянцы, дзе існаваў шматлікі бойкі гурток Грамады.

— І добра,што гэты з'езд не адбыўся ў Трасцянцы, — кажа доктар Уладзімір Юзвюк, які нарадзіўся ў гэтай жа вёсцы. — Трасцяніцкія хлопцы так лёгка не ўступілі б. Там кроў палілася б ракою. Безумоўна, быў бы гэта болей крывавы павятовы з'езд, чым у Старым Беразове.

Так, гэты з'езд астаткова быў наладжаны ў нядзелю, 5 снежня 1926 года, у вёсцы Старое Беразова, у хаце Івана Трашчоткі. І па гісторыі ведаем, што быў гэта самы крывавы павятовы з'езд БСРГ.

Што менавіта здарылася ў Старым Беразове?

Мяркую, што найлепш на гэтае пытанне адказа арыгінальны дакумент, які захоўваецца ў Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ у Мінску. Гэта сапраўдная тэлеграма, адрасаваная Браніславу Тарашкевічу, накіравана з Вільні, 6 снежня 1926 г. у 12 гадзін і 8 мінут дня. Тэлеграма на польскай мове. Вось яе пераклад:

„У нядзелю, пятага, праходзіў павятовы з'езд Грамады ў вёсцы Старое Беразова, Арлянскай гміны, Бельскага павета. Членаў



З дакладам аб Грамадзе выступіў доктар Уладзімір Юзвюк.

Грамады, якія кіраваліся на з'езд, тайная і яўная паліцыя ў Старое Беразова не прапускала, арыштоўвала. Такім чынам на з'езд змагло прабіцца толькі 120 чалавек. Вёска Старое Беразова была акружана атрадамі пешай і коннай паліцыі ў колькасці 100 чалавек, з сямю кулямётамі. У час працы з'езда банда паліцэйскіх тайнякоў у колькасці да 15 чалавек пачала пагром хаты, ламала дзверы і вокны. (...) паліцыя ўварвалася ў хату і пачала біць усіх членаў з'езда прыкладамі і шаблямі. Паліцэйскія трымалі за рукі паслоў (...). Паслы Мятла і Валошын паранены. Апрача гэтага ўдзельнікаў з'езда паранена 50 чалавек. (...)".

Гэтую тэлеграму падпісаў нейкі Раман.

Ноччу, 15 студзеня 1927 года ўлады наладзілі ўсеагульны пагром БСРГ. Былі арыштаваны ўсе паслы і больш за 400 яе кіраўнікоў. 22 сакавіка 1927 года Грамада была афіцыйна закрыта ўладамі.

✲

У памяць гэтых падзей стара-




## АДЭПТ

— Ведаеце, калі так прызнацца... я крыху расчараваны ім... сам за фарбы не хапаецца. Папера павінна ж стацца яго найлепшым сябрам, ого, папера... І крэйда, або аловак, а ён... Расхадзіўся я на яго сёння, прыйшоў да мяне і кажа, што ён перамучаны і каб так адкласці ўсенька тое...

Вы, пане вучыцель, добра сказалі: маляванне гэта табе не гулянка, гэта праца во якая цяжкая! Недзе чытаў я пра таго Паганіні, як ягоны бацька... лупіў яго па руках, пакуль той не вывучыўся на генія.

Думаю часам, што гэта ўжо не сорак пяты, не тысяча дзевяцьсот сорак пяты год, калі і гандлянуць можна было і пажыць, не ў роспуст кажучы, а гэта ж ужо сапраўды дваццаты век наш настаў, бо жывецца ж, як і самі бачыце, з уласнае працы найчасцей, і відаць на рабоце нават тых, што некалі інтарэсы не абы-якія чынілі-рабілі.

Ну так, пане вучыцель, не тыя часы... Напрыклад, гэты ж Фэліні: палова людзей выходзіць з кіно, нічагуткі не зразумеўшы, от, заплацілі грошы за білет ды нудзіліся цэлыя дзве гадзіны, але іншыя, ведаеце, ёсць такія, што аж бляюць ад захаплення ягонымі тымі кінакарцінамі!

Я, вядома, разумею, што майму сыну куды там да генія, аднак жа хачу, каб ён вось так сабе... хаця б дзеля аднаго сябе... Ведаю, ведаю: мастак з яго не будзе, але няхай для практыкі самое, напрыклад, у школе каб змог нарысаваць лаўравы вянок у аздобу сцяны ці каўбоя якога, бо як самі ведаеце, такія маленечкія ўдачы часамі даводзяць да буйнае перамогі.

Заканікуліў я летась з сябрамі... Быў там, з намі, хлапчук адзін, мо на палову года малодшы ад майго, і, ведаеце вы, шмат чаго я заўважыў у карысць нашага хлопца, які, не хвалячыся, і веславаць на лодцы дае рады і, калі пойдзе дождж, на нуду, дык і з картамі ўсякія фокусы прадэманструе. У басейне аднаго разу то я аж пабялеў ад трывогі раптоўнае — ну, не пабялеў, але так гаварыць, — бачу, наша хлапчанё і ныркуць патрапіць і на спіне паляжаць у вадзе, і наогул аж жах іншы раз бярэ! Кажуць, заўчасна ўсё ў яго і што, калі пятнаццаць яму будзе, то маляваннем займацца, мабыць, і вольнай хвілі ў яго ўжо не знойдзецца, дык няхай хоць цяпер. А ў шаснаццаць гадоў, го-го, дзяўчыняты яму ў галаве будуць!!

А мая жонка, ведаеце, з такое сям'і выводзіцца, ну... А тут жа, сын і я гэта ж супольнасць крыві. З яе братам меў я перабоі, хоць і блізкая радня, так сказаць, і таму хачу выкараніць усё тое прынамсі ў сыне сваім, ад

беразоўскі гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў нядзелю 1 снежня 1985 года наладзіў урачысты сход жыхароў гэтай вёскі. Старшыня гуртка і актыўны дзеяч БГКТ Грыша Мароз спецыяльна запрасіў на гэты сход Шымана Карнілюка, аднаго з нямногіх стараберазоўскіх старажылаў, якія памятаюць крывавы грамадаўскі з'езд у 1926 годзе.

— Мне тады было 12 гадоў, — гаварыў дзядуля Шыман. — Жылі мы непадалёку, амаль пасуседску з Трашчоткамі, наскасяк з другога боку вуліцы. І я добра памятаю, як усё гэта тут адбывалася. Найперш паліцыя забараніла нам выходзіць з хаты і глядзець у вокны. Хто б аднак слухаў іх! Мы ж былі малыя жэўжыкі-непаседы. Цэлая вуліца запоўнена была паліцыяй і нейкімі чужымі людзьмі, апранутымі па-цывільнаму. І раптам пачалі хату Трашчоткі абкідаць каменнямі, паляцелі вокны. А паліцыя, нібы ў абарону паслоў і дэлегатаў, б'е палкамі і прыкладамі ды шаблямі ўсіх, хто трапляў пад рукі... Хата Івана Трашчоткі пасля гэтага пабоішча выглядала, як пасля ўзрыву бомбы, была разбіта дашчэнту, а колькі людзей пабітых! І паслоў пабілі...

*

Стараберазоўскія актывісты БГКТ вельмі дбайна падрыхтавалі сваю невялічкую святліцу на гэты ўрачысты сход. Асабліва спадабаліся прыгожа вышываныя, цяпер ужо музейныя, ручнікі. Апрача старшыні, Грышы Мароза, шчыра тут папрацавалі гаспадыня клуба Валя Шварц, а таксама Пётр Скепка, Юрка Трафімюк і іншыя члены БГКТ.

З дакладам аб БСРГ выступіў доктар Уладзімір Юзвюк. БГКТ прадстаўлялі: старшыня д-р Аляксандр Баршчэўскі і яго намеснік Кастусь Майсеня.

Святліцу да адказу запоўнілі жыхары багатай цяпер вёскі Старое Беразова. З палымяным заклікам прадаўжаць і замацоўваць ідэі БСРГ звярнуўся да іх А. Баршчэўскі.

— Няма вечных людзей, — гаварыў ён. — Адышлі ад нас правадыры Грамады. Але ёсць вечныя ідэі. І якраз ідэі Грамады — каб кахаць і цаніць роднае — з'яўляюцца вечнымі.

З мастацкай часткай выступіў жаночы хор з Нараўкі, які працуе пад кіраўніцтвам Вольгі Закройшчык. На гармоніку падаваў ім мелодыю настаўнік Мікалай Варанецкі. І гэта таксама быў доказ несмяротнасці грамадаўскіх ідэй.

Кіраўніцтва ГП БГКТ дамовілася з мясцовым актывам, што падобныя ўрачыстыя сходы ў гадавіну крывавага павятовага з'езда ў Старым Беразове будуць яны наладжваць кожны год.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



**Нашчадкі тых стараберазоўскіх сялян, якія ў 1926 годзе былі сведкамі павятовага з'езда Грамады.**

**(Працяг са стар. 4)**




тыў ягоных разважанняў і адразу падтакнуў: так, так, так! Потым астыў — логіка ў Барскага чамусьці эмацыянальная, на кароткую дыстанцыю. Назаўтра прыйшоў да мяне одум: чалавека фармуюць жа акалічнасці, варункі! Ага, і чаму нечага такога нельга напісаць, скажам, пра нашых суседзяў, пра літоўцаў і латышоў, якія, удадатак, шмат меншыя за нас? Не трывожаць іх гэтак драматычна падобныя праблемы. Справа не ў непадобнасці іхных культур ці псіхікі. Нацыянальная свядомасць у іх менавіта стала папулярнай надоўга да сацыяльна-тэхнічнага перавароту ў Еўропе, які трэба вязаць з рэвалюцыямі і сусветнымі войнамі. Маляўніча кажучы, яны не спазніліся на наваселле дваццатага стагоддзя (чаму і як, гэта асобная гісторыя). У выніку гэтага беларусы як нацыя нікому не змаглі быць палітычным партнёрам. А самой пані Гісторыі мы аж па сёння адвешваем старасвецкія паклоны, даўно выйшаўшыя з моды ў блізкіх нам сваім плебействам народаў. Бо — дадзена нам больш для свайго развіцця, чымсьці самі змаглі б дабіцца. Прытым горбіць нас комплекс петэнта: а каб хто даў што! Мой швагер злуецца на мяне такімі словамі: „Кажаш, я не гавару па-свойму? Няхай начальства пачне, то і я пачну!".

Махнацкага гідзіць беспардонная стылістыка Барскага, тое тыцканне пад нос беларусам „смярдзючае анучы праўды". Я не падзяляю дарэшты абурэння на Барскага, як і не падзяляю дарэшты інтэнцыяў ягонай публіцыстыкі. З праўдаю, як і з махлярствам, трэба быць нязменна асцярожным: у праўды заўсёды сядзіць пад пазухаю куранятка махлярства, а махлярства трымае ў руках за спіною крыху праўды на ўсякі выпадак... Барскі паганяе ў наш бок раз'юшаныя думкі аб тым, што калі б не цемра вёскі ў мінулым, і следу не было б ужо па беларусах! Так, гэта праўда, але не ўся. Прыкрая, але праўда. **А не ўся не таму, што прыкрая яна. Барскі не можа не ведаць пра тое, што слабаразвітая культура не перамагае высокаразвітую. Барскі не наважыцца на т.зв. эфект перад непісьменнымі і не прыкліча ў наша ўяўленне распад Рыма пад ударамі тупамордых варвараў з нашага староння, бо ведае, што зараз кожны з нас крыху рымлянін (хаця б таму, што піша лацінскімі літарамі). Культура народа, калі яна вылупіцца з правінцыянальнасці, набывае тае дзіўнай уласцівасці, што пераўтвараецца ў нешта несмяротнае, непадлеглае законам пачатку і канца. Без рымскай або лацінскай культуры не было б сёння ні італьянскай, ні французскай, ні іспанскай... Я недакладна гавару, трэба: калі б не распалася Рымская імперыя, не ўзніклі б ні Францыя, ні Італія, ні Іспанія, ні Партугалія, ні Румынія з іхнымі мовамі на базе латыні.** Карл Вялікі, стваральнік французскай дзяржаўнасці, ад якога і пачалося паняцце каралеўскай улады ў нас, быў непісьменным чалавекам, не ведаў аніводнай літаркі. Тысяча гадоў сярэдневечча гэта неапісальны ўпадак асветы, калі ведаць, што ў антычным Рыме нават шматхто з рабоў быў прывучаны чытаць-пісаць, а сёй-той з іх выйшаў і ў пісары або ў паэты, сам будучы з пушчаў тадышняй дзікай, бруднай ды несціхана галоднай Еўропы. Што ж нарадзіла французскую нацыю або іспанскую, калі не тая ж ц е м р а? Ізаляванасць і задрыпанасць! Пра гэтыя мовы зласлівікі гавораць як пра звыраднелую латынь!... Гэткую зласлівасць не кожнаму зразумець.

Падкрэсліваю мараль. Ведаю, што яна прыходзіць пасля хлеба. Веру ў яе хуткі прыход да нас, бо хлеба нам ужо не бракуе.

**Аляксандр Анташэвіч**





самюткага пачатку...

На рабоце ў мяне, карысныя перспектывы аб'явіліся, ну, у сувязі з той рэарганізацыяй, але, ведаеце, хэўра ўселася, як і ўсюды можа і не хэўра якраз, а толькі кампанія такая, і мы хочам выштурхнуць яе з тых седалаў. У жыцці гэта так і ёсць: добры крок гэта грошы, благі крок гэта страта грошай, рыхтык бы ў фірме.

Хочацца мне, пане вучыцель, каб мой сынок пакарыстаўся ўрокамі ў пана не ў дзесяці працэнтах, але ў трыццаці або і ў трыццаці пяці... Не ведаю, ці вы добра разумееце мяне. Гавару я нямала, ды яшчэ болей думаю, і аніяк не магу дапусціць да сябе такую думку, што сыніска гэты мой вырасце такім „тудэма-сюдэма", ведаеце, як у Маскве кажуць: кругом дурак! Праўда, па матэматыцы дык ён не надта герой, і калі ў адным кульгае, якраз думаю, то хоць у другім няхай ідзе гладкай дарогаю, ну не?...

У гэты наш час, ведаеце, усё вельмі ж ускладнілася, — даволі ў газету зазірнуць, у артыкулы, хаця хто іх там папрачытвае, усю тую мудроту; найлепей на адукаванца наткнуцца, такі коратка растлумачыць табе тое, што доўга трэба было б чытаць. Хі, бы ў тэлевізары... Ёсць у мяне такі сябар, які жыве фатаграфуючы, значыць, фатограф з яго дыпламаваны, мастак, і ён сказаў мне неяк: карціна і карціна гэта не тое самае. Во, бачыце, пане!

Матэйка быў такі (недзе чытаў я ці чуў), то ён не еў, цэлы час сядзеў над палатном... Трэба мець пасію, як сказана ў той кнізе, і я гэта ведаю нягорш сам па сабе. Бачу вось, наш Антосік пытае ў вас, якую фарбу браць, і добра, бо я хачу, каб ён асвойтаўся, каб ведаў, як аловак застругваюць, і каб ведаў, што такое вугалёк, і калі гэты вугалёк зломіцца, дык бярэцца наступны, і робіцца ўсё, бы мімаходзь.

Ну, ведаеце, пане вучыцель, той італьянскі спявак, ну, як яго зваць... Бэнэвуці, дык цяпер ён жа дырыжор, але калі было яму дзесяць гадкоў, то і тады ўжо гожа спяваў. Хачу, каб мой сынок умеў крыху імпанаваць калегам, каб рэпрэзентаваў сабою вышэйшы ўзровень, каб, узяўшы аловак або вугалёк, тлумачыў, вось, што гэта робяць так і так.

Са мною, ведаеце, так: задумаю нешта, а потым вазьму ды адступлюся ад таго, дык адразу выходзіць калматня. І таму я аж гэтак упёрся, і ніхто тут мне не вытлумачыць, бо іначай бяда. І сынок навучыцца маляваць, і праз колькі гадоў дасць яму гэта свой працэнт. Вам я пра гэта гавару, бо і з кім жа мне пагаварыць, калі не з вамі! Жонка фанабэрыцца, кажа, што непераканаая яна, і я таксама ахвотна быў бы тым неперакананым ды пасядзеў бы ў фатэлі з газетаю ў руках, а сынок тым часам няхай сабе з сабачкам пазабаўляўся б, аднак я цвёрда жадаю, каб ён жа нешта ўмеў, нечага навучыўся. Калі іначай, дык кім яму быць — слесарам якімсьці?!

Я, як бачыце самі, немалады ўжо, аднаго дзіцяці ўсяго прычакаў, і хачу, калі яго возьмуць у армію, то каб не бегаў там па полі з нейкім кулямётам, вочы на лоб вываліўшы...

Я, ведаеце, хоць і за ўласнай работаю свету не бачу, аднак тры карткі просьбы тае да выхавацелькі школьнай сына майго намахаў, каб яна дакладна зведамляла мяне праз вучнёўскі дзённічак пра благія ўчынкі ягоныя. І я добра ведаю ўжо, дзень у дзень, пра тое, што мой сын „крыўдзіць дзяўчынак", „ходзіць ускрайкам сходаў і палохае няшчасным выпадкам", „піша глупствы ў сшытку" і гэтак далей. Я той яго дзённічак штодзень чытаю. І я адразу хачу выкараняць усянютка благое ў ім. Я буду змагацца, я змагаюся...

**Мікола Давідзюк**

(Працяг са стар. 2)

## ВЕСТКІ З БССР

пуцёўка была бясплатная. Памойму, нядрэнна, як вы лічыце?

### Узровень жыцця

Дзесяць год назад, калі Аляксандр і Наташа пажаніліся, у іх не было сваёй кватэры, паколькі абое прыехалі ў Мінск незадоўга да жаніцьбы. Тры гады наймалі пакой, а потым атрымалі ад завода трохпакаёвую кватэру ў новым раёне.

— Наш раён вырас даслоўна на вачах — сучасны, прасторны, з магазінамі, школамі, дзіцячымі садамі. І да работы нам з Сашам усяго 10-15 мінут ехаць, — гаворыць Наташа.

У кватэры Лазарэвічаў вельмі ўтульна: з густам падабраная мэбля, дываны, каляровы тэлевізар...

— Зарабляем мы абое добра, — працягвае гаспадыня. — Я — 180 рублёў у месяц, муж — не менш 300. За кватэру плацім 10 рублёў у месяц летам і 15 зімою. Гэта разам з атапленнем, вадою, газам. Харчаванне нам абыходзіцца нядорага, паколькі мы толькі вячэраем усёй сям'ёй, а абедаем „кожны ў сябе": дзяўчынкі ў школе, мы на заводзе. Выходзіць не больш двух рублёў на чалавека. Выдаткі на транспарт таксама мінімальныя — праязны білет на ўсе віды транспарту каштуе ўсяго чатыры рублі. Таму мы і змаглі так хутка ў кватэры абжыцца, купіць машыну. Вось так мы і жывем. Звычайная сям'я. Каб толькі ў свеце ўсё было спакойна, каб толькі ніколі на зямлі не было вайны. Каб нашы дочкі, а потым і іх дзеці таксама жылі, як і мы — у любві і шчасці...

**М. Сідаронак**

## Куток практычных ведаў

### СЫРОЕ МЯСА

Трэба ведаць, што ў сырым мясе, нават зусім дабраякасным і свежым, могуць быць мікробы, таму яго ніколі нельга трымаць разам з іншымі прадуктамі.

Сырое мяса трэба класці на дошку, рэзаць асобным нажом, каб у далейшым не карыстацца імі для апрацоўкі іншых прадуктаў. Нож і дошку вымыць старанна гарачай вадой.

Не дакранайцеся да іншых прадуктаў, пакуль вы не памылі рук, якімі апрацоўвалі сырое мяса.

### ШМАЛЕЦ

Шмалец, які атрымаў непрыемны пах, становіцца прыгодным для ўжывання, калі яго прамыць халоднай вадой. Шмалец растапіць і выліць у пасудзіну з халоднай вадой, размяшаць і пакінуць застыць. Ён усплыве на паверхню, затым зняць яго шумоўкай. Прамыванне паўтарыць некалькі разоў да таго часу, пакуль тлушч не стане свежым.

### ТОРТ

Калі ўпрыгожваюць торт фруктамі — сырымі або з кампоту — то ён часам убірае лішні сок і вельмі размякчаецца. Каб пазбегнуць гэтага, загадзя змажце паверхню торта бялком.

# СОННІК

1

**А**

**Аазіс** — пэўны даход.
**Абагатвараць** — абсмяюць цябе.
**Абажаць каго-небудзь** — рабіць што-небудзь бяздумна, неразважліва.
**Абамлець** — спазнаць дабрадзейства.
**Абанемент,** падпіска — аднаўляць — добрыя і здаўна пажаданыя звесткі; спыняць — нядобрыя звесткі.
**Абаранка** — не мець ніякіх пажаданняў; есці — удача ў намерах, планах.
**Абарванне хмары, лівень** — сум перамешчцца радасцю.
**Абвестка пра смерць** — благі прагноз, дрэнныя перспектывы.
**Абвязваць** — вялікая радасць.
**Абед** — есці самому — нястачы або скупасць; есці з іншым чалавекам — шчасце і багацце; бачыць на стале — спачынак, пенсіянерства.
**Абмыванне** — заповедзь добрых інтарэсаў і спраў.
**Абараваным быць** — непрыхільная заповедзь.
**Абрабляць раллю** — іншым прынясем карысць.
**Абраза** — ілюзіі, летуценні.
**Абрыкосы** — дарэмныя спадзяванні; есці — радасць; сушаныя — сум; у кветках — позняе замужаства.
**Абрус** — белы — парадак, лад; брудны — непарадак, благія паводзіны пашкодзяць табе.
**Абруч** — дрэнны знак.
**Абрыў** — клопаты; парослы лесам — перашкоды.
**Абсталяванне хатняе, мэбля** — шчаслівае сужыццё з мужам; расстаўляць — хуткае замужаства, змена кватэры.
**Абудзіць** — прыемная звестка.
**Абурэнне** — кашмарныя звесткі.

## НА ПРАЎДЗІВЫЯ СНЫ

Тлумачальнікі сноў рэкамендуюць прытрымлівацца пэўных правіл, калі хочам сасніць праўдзівы сон.

1. Не класціся спаць першова ўзбуджаным, ні з кім не сварыцца і не спрачацца, не чытаць пра кашмарныя з'явы і г.д.

2. Праветрыць пакой, у якім маеце намер спаць.

3. Перад сном не есці мяса, капусты, гароху, фасолі і іншых цяжкіх страў.

4. Найменей на працягу сутак перад сном не піць гарэлкі, віна, кавы, гарбаты і іншых узбуджальных напіткаў.

5. Легчы ў ложку выгодна, каб нішто не муляла, не мёрзла якая-небудзь частка цела, ніхто не штурхаў, не накрывацца занадта цёпла.

Прарочым лічыцца той сон, які прысніцца пасля поўначы.

„Часта сны выяўляюць пачатак якой-небудзь хваробы ў арганізме, пра які ў час няспання немагчыма даведацца з-за іншых знешніх больш моцных раздражненняў" (З энцыклапедыі).

## НАРОДНЫЯ ПРЫКАЗКІ

Куды ноч, туды і сон.
Часам сон як у руку дасць.
На ростанях свайму сну не вер.
На доўгі век і баба лек.
Варажба як стральба: куды паляціць, туды і загрыміць.
Надвое бабка варажыла, а ў адно месца палажыла.

## КАЛЯДНІКІ

*„...і на зямлі мір"*, — спяваюць калядніку з вёскі Макаўка, што ў Нараўскай гміне. Традыцыйнае калядаванне, на жаль, адыходзіць у мінулае. Добра тады, што Гайнаўскі дом культуры, якім кіруе інж. Мікалай Бушко, кожны год наладжвае агляды каляднага спявання, спалучаныя з конкурсам на найпрыгажэйшую калядную „звязду".

**Фота В. Рудчыка**



(Працяг са стар. 7)

# КАРАВАЙ

— Ну, тых, пра якіх паведамляў табе гэты Казусік з Макарава. Кажуць, што з Масквы...

— А не з Берліна, з прывітаннем ад Гітлера?

І яшчэ зусім не дакончыў гэтага сказа, калі на сваіх грудзях пачуў чыесці моцныя рукі і сакавітую лаянку, з успамінам і Бога, і мацеры, і ўсіх святых ды грэшных...

— Ну, хопіць табе тут дурня валяць! Я — упаўнаважаны ад Беларускага партызанскага штаба! Зразумеў?

Грышка Каравай не спадзяваўся гэтакага павароту справы. Ад уражання занямовіў.

— Ну, здаецца, ты зразумеў, — працягваў Макараў. — Дык выконвай мае загады!

З гэтай мітусні двух кандыдатаў на камандзірскі пост скарыстаў сувязны.

— Дзмітры Матвеевіч, дык я ўжо пайду дамоў, і, не чакаючы аніякага дазволу, ён адскочыў убок, каб расплыіцца ў заслоне вечара.

Дзмітры Макараў і Грышка Каравай сталі насупраць сябе, цяжка дыхаючы ад злосці і нерваў. А што з гэтага ўсяго выйшла, дык ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**



# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Эдзі Агняцвет

* * *

Мы ішлі прасторамі,
Белымі і зорнымі,
Між сасонак гонкіх
І бярозак звонкіх.

Ёлка навагодняя,
Родная, прыродная
Ззяе на паляне,
Як само світанне.

Вось яна, прыбраная
Ў дзівы саматканыя!
Госці незвычайныя,
Фарбы разнастайныя!
І на розных мовах
Лес пяе зімовы.

А паветра чыстае,
Свежае, іскрыстае —
Над красой — ялінай,
Над усёй краінай.

З месяцам і зоркамі,
З новымі пацёркамі,
З новымі дарамі,
З добрымі сябрамі!

Павел Прудnікаў

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, СТУДЗЕНЬ!

Чыста ў полі,
роўна,
бела.
Лес у снег урос.
Завіруха песню спела,
Станцаваў мароз.
Паскаваў ён ланцугамі
Рэкі і зямлю.
Вее сівер халадамі, —
Я люблю зіму.
Я люблю зіму заўсёды
За яе разгон,
За высокія сумёты,
За марозны звон:
Ён бадзёрасць не астудзіць
Што жыве ў душы.
Добры дзень,
чароўны студзень,
Ледзяная шыр!

## З Новым годам!

Ёлка — гаспадыня
Пушчы светла-сіняй.

Тут снягі блакітныя,
Сонейкам спавітыя.
Непатрэбна вата
Для такога свята!

Як сябры вітаюцца,
Рэха адгукаецца.
З новым, шчасным годам,
З дружным карагодам!

Казімір Камейша

## НОВЫ ГОД

Чакае ўся зямля яго,
Па следзе выглядае.
Ужо ў дарозе Новы год
І хутка завітае.

Ён доўга пушчаю ішоў,
Сцяжынкай каля гаю.
І вось на ганку ён сняжок
З валёнак абівае.

Заходзь у хаты, не марудзь,
Цябе сустрэць мы рады.
Ужо на вежах свету б'юць
Дванаццаць раз куранты.

На ёлцы ўспыхнулі агні,
І зоркі карагодзяць.
І вось ён дзверы расчыніў!
І мы — у новым годзе!

**У Гайнаўскай школе № 2 шмат год ужо дзейнічае лялькавы тэатр. Дзеці розных класаў пад кіраўніцтвам настаўніцы Ольгі Андрэюк развучваюць п'ескі на беларускай і польскай мовах. Беларускі рэпертуар складаецца галоўным чынам з распісаных на ролі народных казак, а старэйшыя класы, асабліва 6 і 7, развучваюць сапраўдныя п'есы, узятыя з „Зоркі" ці з іншых часопісаў і кніг. На здымку — вучні шостага і сёмага класаў са сваімі лялькамі. Лялькі дзеці таксама выконваюць самі, а падручным матэрыялам ім служаць старыя мячыкі, кавалкі матэрыялу, каляровае пер'е і іншыя, часам вельмі дзіўныя матэрыялы.**

**Фота Я. Чэрнякевіч.**



Віктар Дайліда

## ДОБРАЯ ФЕЯ

Надыходзіў Новы год. Людзі ставілі ёлкі, упрыгожвалі іх бліскучымі рознакаляровымі цацкамі.

Юля разам з мамай таксама прыбірала сваю ёлачку, напляла на яе шышкі, жалуды, шары, пеўнікі, цукеркі, яблыкі. На самы вяршок мама прымацавала бліскучую чырвоную зорку, а пад ёлкай пасадзіла вялікага Дзеда Мароза ў кажуху з калматым каўняром, абсыпаным „снегам", і ў чырвоным башлыку. Дзед быў падпяразаны шырокім вышываным поясам з кутасамі. За плячамі — вялікі мяшок.

— Заўтра табе, Юлечка, Дзед Мароз прынясе падарунак, — гаварыла мама, калі яны вешалі гірлянды з электрычнымі лямпачкамі. — Толькі не гэты Дзед, а сапраўдны, жывы. І яшчэ, калі ты будзеш добрай, паслухмянай дзяўчынкай, падарунак табе прынясе і Добрая Фея.

— А хто такая добрая Фея? — не зразумела Юля.

— А гэта ёсць такая цётка, называецца яна Фея, — адказала мама. — Яна ноччу перад Новым годам усім добрым дзецям падарункі прыносіць.

— А адкуль яна ведае, хто добры, а хто не? — зноў спытала Юля.

— Ведае. Яна ўсё-ўсё ведае. Усё бачыць, усё чуе, усіх-усіх разумее. Прыходзіць Фея ноччу, калі спяць не толькі дзеці, але і дарослыя. Ціхенька адчыняе дзверы, нячутнымі крокамі падыходзіць да ёлкі і кладзе пад яе падарунак. А на падарунку нават надпіс ставіць: Юльцы, Наташы або Іванку ці Мішу.

— Няўжо?! — здзівілася Юлька.

— Праўда. Толькі прыносіць падарункі яна таму, хто рукі чыста з мылам мые, хто зубы кожны дзень чысціць, хто палец у рот не бярэ, у каго кніжкі і сшыткі хораша складзены, хто маме посуд мыць памагае, хто спаць у дзевяць гадзін кладзецца. Ну, а хто мурза і неслух, Фея да таго не заходзіць... — махнула рукой мама.

Вечарам Юля хораша прыбрала на сваім стале, дзе рыхтавала ўрокі — сёлета яна ўпершыню пайшла ў школу, — роўненька паскладала ўсе свае школьныя прылады, кніжкі і сшыткі, потым чыста, з мылам вымыла рукі, а павячэраўшы, пачысціла зубы. І калі не было яшчэ і дзевяці гадзін, пачала класціся спаць.

— Нешта ты рана сёння? — спытала мама.

— А Фея ж падарунак прынясе... — адказала дзяўчынка.

— Ах, праўда ж... — спахапілася мама. — А я і забылася. Ну, спі, спі, дачушка.

— Добрай ночы, мамачка, — пажадала Юля маме і дадала: — Я заўтра і косы сама запляту, і хусцінкі свае памыю, і ў магазін збегаю.

— Ну, малайчына...

Юля доўга ляжала, не магла заснуць, усё думала, думала, а што ж гэта за такая Добрая

(Працяг на стар. 10)

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## З НОВЫМІ ПЯЦЁРКАМІ

Ходзіць студзень па двары.
Снежань знік у вырai.
Дзякуй, добры год стары,
За работу шчырую —
За багаты ураджай,
За будоўлі звонкія
I за песні —
з краю ў край
Над усёй старонкаю!

Са Снягуркай Дзед Мароз
Школы ўсе аб'ехалі,
Раздарылі цэлы воз
Забавак з пацехамі,
Пажадалі дружбы ўсім
I прасілі потым,
Каб ніхто з нас не насіў
Цяжкі мех з лянотай.
У палях — прастор снягоў,
Небаззяе зоркамі.
Новы год да нас прышоў
З новымі пяцёркамі.

**Васіль Зуёнак**

*1. Навучыцеся выразна і прыгожа чытаць верш. Для гэтага спачатку вызначце радкі і словы, якія неабходна падкрэсліць голасам (вымаўляць цішэй або грамчэй, хутчэй ці павальней).*

*2. Вывучце верш на памяць.*

*3. Прачытайце словы парамі. Вызначце націскі. Заўважце, калі о, э пераходзяць у а.*

Ноч — начны,
новы — навейшы,
дошка — дашчаны,
горад — гарады,
рост — вырасці,
рэчка — рачулка,
стрэл — страляць,
рэдка — радзейшы,
трэба — патрабаваць,
цэны — цана.

**У беларускіх словах галосныя о, э вымаўляем і пішам пад націскам, не пад націскам яны пераходзяць у а: дом — дамы, жолуд — жалуды, чэрпаць — пачарпнуць, цэгла — цагляны.**

## ВІЦЬКАВА ШРУБКА

Мы з настаўніцай хадзілі на экскурсію ў рамонтную майстэрню нашага сельскагаспадарчага гуртка. Майстэрня знаходзіцца ў вялікім будынку. Там мы бачылі, як рабочыя ладзяць трактары, розныя машыны. А каля дзвярэй — бач, ужо стаіць спраўная машына.

Хадзілі мы па майстэрні, да ўсяго прыглядаліся. Раптам Віцька Харытанюк недзе прапаў.

— Віцька, Віцька! — закрычалі мы.

А ён выходзіць з-за варштату і кажа:

— Ну, чаго раскрычаліся?

— А дзе ты схаваўся? — пытаемся.

— Не хаваўся я, а шрубку прыкручваў. Мне наш сусед дазволіў.

Віцька вядзе нас да камбайна і кажа:

— О, тут мая шрубка!

Мы спачатку не паверылі, што Віцькава шрубка ў гэтай велізарнай машыне. А тут падыходзіць да нас Віцькаў знаёмы.

— Значыць, памагаць хочаце? — усміхнуўся ён. — Ану, станавіцеся ў чаргу! — сказаў ён і даў нам ключ.

Так кожны вучань нашага класа прыкруціў па адной шрубе ў камбайне. Цяпер ёсць і адрамантаваны намі камбайн. Толькі невядома які, бо ў сельскагаспадарчым гуртку іх некалькі і то аднолькавых. Але ці гэта не ўсё роўна? Найважнейшае, — мы таксама рамантавалі!

**Расказаў вучань трэцяга класа Славік Шымчук**

*1. Адкажыце на пытанні. Адказы запішыце.*

*а. Куды хадзілі трэцякласнікі? б. Што яны там убачылі? в. Куды дзеўся Віцька? г. Што ён рабіў? д. Да чаго падышлі дзеці? дж. Што дазволіў ім зрабіць рабочы? дз. З чаго цешыліся вучні?*

## Загадкі

* ✲ *

У кошыку 5 яблыкаў. Падзяліце іх паміж пяццю дзяўчынкамі так, каб адзін яблык застаўся ў кошыку.

* ✲ *

Лік 666 павялічце ў паўтара разы, не прымяняючы арыфметычных дзеянняў.

* ✲ *

У краўца было 16 метраў тканіны. Штодзень ён адразаў па 2 метры. У які дзень па ліку ён адрэзаў апошні кавалак?

## Вучнёўская творчасць

### ВОСЕНЬ

Глядзім навокал:
Што жа гэта?
Ляжаць лісты каля цябе,
Дык гэта ж восені прыкметы
У падарунку для цябе.

А прыкметаў у яе нямала:
Яблыкі, грушы, арэхі.
Ды яшчэ шмат-шмат іншых,
Аб якіх я вам яшчэ раскажу
Калі-небудзь.

**Варвара Бачынская,**
5 „б“ клас,
Гайнаўка, шк. № 2.

## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 67, кв. 7. Алёша Кулясінскі, 4 клас.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 3, кв. 37. Зіна Камісарава, вучаніца 10 класа

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 3, кв. 35. Наташа Селязнёва, вучаніца 6 класа.




## ДЗЕ І ЯК СВЯТКУЮЦЬ НОВЫ ГОД

У Японіі аб надыходзе Новага года абвяшчаюць званы: роўна ў поўнач ва ўсіх гарадах і вёсках чуюцца сто ўдараў. Сустрэча Новага года працягваецца цэлы тыдзень. На працу першых трох дзён японцы посцяць. Ядуць толькі вараны рыс. Затое апошнія дні поўныя радасці і сытай гасціннасці.

Па цэнтральных вуліцах праходзіць традыцыйная працэсія „льва, які танцуе“. Вядома, леў не сапраўдны: гэта чацвёра мужчын у масках, апранутых ў стракатыя тканіны. „Леў“ ходзіць па хатах і збірае грошы на агульную забаву.

На вуліцах перад кожнай хатай ставіцца ўпрыгожанае дрэўца (піхта), што сімвалізуе вернасць і даўгалецце. Над дзвярамі вісяць пучкі саломы, абгорнутыя ў папяросную паперу, — гэта даніна багам, якія будуць панаваць у хаце. Самі пакоі ўпрыгожаны галінкамі папараці і апельсінавага дрэва.

У самым канцы свята спальваюцца ўсе святочныя ўпрыгожанні. Па вуліцах праходзяць атрады стралкоў, якія нясуць на высокіх бамбуковых кіях вялікія фантастычныя лялькі. Такой працэсіяй заканчваецца сустрэча Новага года.

Цікава адзначыць, што на адзін з першых дзён Новага года прыпадае дзень нараджэння ўсіх японцаў, якія нарадзіліся ў мінулым годзе. Новы год для іх як бы двайное свята: з новым годам пачынаецца і новы год іх няга жыцця.

* ✲ *

Штогод у канцы снежня кожны шведскі горад выбірае сваю Лючыю — „каралеву міру“. У гэтым конкурсе прымаюць удзел усе дзяўчаткі-падлеткі. Мясцовыя газеты друкуюць штодзень па дзесяць фатаграфій кандыдатак у „каралевы“.

На галаве ў выбранай Лючыі карона з каштоўнага металу. У кароне запалены свечкі па колькасці гадоў „каралевы“. У такім своеасаблівым убранні яна робіць вясёлы карагодні абход гарадскіх вуліц. Як і наш Дзед Мароз, шведская Лючыя раздае навагоднія падарункі і робіць добрыя справы дзецям, хворым і адзінокім старым. На наступны дзень Снягурка-Лючыя пазбаўляецца кароны і ператвараецца ў звычайную дзяўчынку.

* ✲ *

Новы год у Іране сустракаюць у поўнач 22 сакавіка. Роўна ў 12 гадзін ва ўсіх гарадах на вежах страляюць гарматы. На вялікіх плошчах выступаюць вандроўныя акцёры і шматлікія магі. Шмат гадзін працягваецца вулічная весялосць: пераапранутыя людзі скачуць цераз агонь, спяваюць, танцуюць, расказваюць старыя персідскія казкі, а ў хатах б'юць посуд.

Здаўна ў Іране існуе звычай мяняць у хаце ўвесь гліняны посуд. Стары, што адслужыў свой век, разбіваецца, а замест яго купляецца новы. I так з году ў год. Таму, калі пра некага хочуць сказаць, што ён бедны, кажуць: „У яго хаце гліняны посуд не мяняўся ўжо два гады“.

**(Працяг са стар. 9)**

## ДОБРАЯ ФЕЯ

Фея, якая ўсё бачыць і ўсё чуе і якая так любіць добрых дзяцей.

А раніцой, прачнуўшыся, Юля адразу кінулася да ёлкі. Зірнула, а там сапраўды ляжыць вялікі пакунак. I на ім напісана: „Сямашка Юліі“. А ў тым пакунку цукеркі, арэхі, шакаладкі... і тапачкі.

— Мамачка, а адкуль Фея ведала, што мне патрэбны новыя тапкі? — спытала Юлька.

— О... яна ўсё ведае... — адказаў за маму тата, які выйшаў з кухні. — Яна ведала, што твае старыя тапачкі знасіліся, і прынесла новыя. Ды паглядзі, якія прыгожыя, — цёплыя, мяккія, нібы пуховыя.

Юля надзела новыя тапачкі і зарадавалася. Ах, якія мяккія!

— А яны і падпісаны нават, — сказаў тата. — Паглядзі, на адным вышыта літара С, а на другім Ю. Сямашка Юліі.

— Праўда, татка... — Юля зірнула і здзівілася яшчэ болей. Але прыкмеціла, што тата падміргнуў маме, усміхнуўся, і раптам не паверыла:

— Ой, вы, мусіць, жартуеце?

— Ды не, што ты...

— Э-э... А чаму ж літары на тапках вышыты якраз такімі ніткамі, якімі мама вышывала мне блузачку? — Юля ледзь не пакрыўдзілася.

— Правільна, Юлечка, — усміхнуўся тата, — бо блузачку і тапкі вышывала адна і тая ж Добрая Фея. А хто гэтая Фея, адгадай?

— Гэта мая мама... — засмяялася Юля.

— Правільна, малайчына, адгадала.

Тады Юля падбегла да мамы, абхапіла яе за шыю рукамі і моцна-моцна пацалавала:

— Дзякуй табе, мамачка!... Дзякуй, Добрая Фея!

## ·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·




**Па ходу гадзіннікавай стрэлкі злучыце першыя літары слоў, што змешчаны ў крузе ў выглядзе малюнкаў, і асобныя літары. Калі зробіце гэта правільна, то прачытаеце навагодняе віншаванне.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

